МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№8 (21) ЖНІВЕНЬ 2003

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

БЮЛЕТЭНЬ ІНФАРМАЦЫЙНАГА ЦЭНТРА



 ПАДЗЕЯ 

## Зварот да замежных суродзічаў Грамадскага камітэту абароны Беларускага ліцэю

Дарагія суродзічы, Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа – адзіная ў нашай краіне сярэдняя навучальная ўстанова ліцэйска-гімназійнага тыпу, дзе ўсё выкладанне вялося па-беларуску, на падставе арыгінальных аўтарскіх праграм, на грунце сапраўднага дэмакратызму і глыбокае павагі да асобы навучэнца.

Створаны ў 1990 годзе як недзяржаўная навучальная ўстанова, Гуманітарны ліцэй сабраў дзеля выкладання ці не найлепшыя інтэлектуальныя сілы. У 1991 годзе, калі ў краіне пачаліся змены да лепшага, Ліцэй стаў дзяржаўным і заняў будынак у цэнтры гораду на вул. Кірава, 21. На чале калектыва Ліцэю стаў педагог і рэжысёр Уладзімір Колас. Практычна ўсе выпускнікі ліцэю штогод паступалі ў беларускія і замежныя ўніверсітэты, рэгулярна перамагалі на беларускіх і сусветных алімпіядах школьнікаў у розных дысцыплінах, ліцэй прыняты ў партнёрскую сетку United World Colleges.

Здавалася б, дзяржава павінна ўсяляк падтрымліваць школу, якая гадуе сапраўдных патрыётаў, але 25 чэрвеня гэтага года Савет Міністраў выдаў пастанову № 850 "Аб ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа". У ёй не называюцца прычыны ліквідацыі. Пастанова парушае дзейнае заканадаўства аб правах бацькоў і дзяцей выбіраць мову навучання і навучальную ўстанову, а менавіта арт. 49, 50 Канстытуцыі і 51 Закону "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", якія гарантуюць даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй адукцыі, даюць права выбару ўстановы адукацыі і мовы навучання для нашых дзяцей. Яна парушае арт. 13 Міжнароднага пакту "Аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах" ААН, арт. 2,3 і 30 Канвенцыі ААН "Аб правах дзіцяці". Паводле Канвенцыі ААН "Аб барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі" ад 14.12.1960 беспадстаўную ліквідацыю Ліцэю мы расцэньваем як дыскрымінацыю па моўнай і нацыянальнай прыкметах у галіне адукацыі.





Увесь гэты час бацькі, выкладчыкі, ліцэісты вялі нястомную барацьбу за свае правы. Яны стаялі ў пікетах, выходзілі на шэсці, збіралі подпісы, падавалі заявы ў суды і пракуратуру. Улады некалькі разоў ужывалі сілу супраць дарослых і дзяцей – абаронцаў ліцэю.

13 жніўня пісьмова запрошаныя чыноўнікамі на чарговую гутарку бацькі з дзецьмі-ліцэістамі накіраваліся ў гарадское ўпраўленне адукацыі. Але там іх сустрэлі людзі ў цывільным і сілай не пусцілі ліцэйскую дэлегацыю ў будынак. Гэтыя "ахоўнікі парадку" паднялі руку нават на дзяцей. 13-гадовую Кацю Раковіч машына "хуткай дапамогі" звезла ў Дзіцячы хірургічны цэнтр.

Але барацьба за Ліцэй – гэта барацьба за Беларусь, за яе будучыню. Мы, педагогі, бацькі навучэнцаў і ліцэісты, маем намер 1 верасня прыйсці да будынку нашага Ліцэю і пачаць вучобу на нашай мове і паводле нашых праграмаў – хай сабе нават на вуліцы. Але мы не ведаем, якім чынам дзеці атрымаюць атэстаты аб сярэдняй адукацыі. Та-му мы будзем намагацца зарэгістраваць недзяржаўны Гуманітарны ліцэй, што вельмі нялёгка.

**Дарагія суродзічы, нам патрэбная вашая неадкладная дапамога.**

**Просім Вас звярнуцца да парламентаў і ўрадаў Вашых краінаў з просьбай паўплываць на кіраўніцтва Беларусі і патрабаваць спыніць парушэнне правоў чалавека, якім ёсць ліквідацыя Ліцэю.**

Для арганізацыі альтэрнатыўнага навучальнага працэсу патрэбныя матэрыяльныя рэсурсы (дошкі ды іншыя навучальныя прылады; падручнікі, слоўнікі, энцыклапедыі, папера, камп'ютары ды іншая тэхніка, памяшканні). Любая дапамога тут будзе дарэчы.

Змаганне працягваецца. Разам мы пераможам!

*Інфармацыю пра становішча Ліцэю можна атрымаць*
*на сайце http://licej.org,*
*E-mai: licej@licej.org,*
*факс +375 17 2205941,*
*тэл. +375 17 2242738 (Уладзімір Колас), +375 29 6703085 (Рэгіна Зімніцкая).*

*Грамадскі камітэт абароны Беларускага ліцэю*

*На здымках: пікет ліцэістаў; будынак Ліцэю.*

## Зварот Рады Таварыства Беларускай культуры ў Літве

Ужо доўгі час ідзе змаганне за сваё існаванне вучняў і бацькоў адзінага ў Беларусі беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Беларусы Літвы абураны дзейнасцю адміністрацыйных і сілавых структур, якія пярэчаць статуту ААН і правам чалавека, выказваюць рашучы пратэст і патрабуюць спыніць антыбеларускую кампанію.

*Рада ТБК, Вільня, 14 жніўня 2003*

## Прага, Чэхія

У Сенаце Чэшскай Рэспублікі адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная заснаванню яго сябрамі камітэту "За свабодную Беларусь". Асноўнымі задачамі камітэту з'яўляюцца: збор фактаў для інфармавання органаў Еўрапейскага Саюза аб парушэннях правоў чалавека на Беларусі; больш аператыўнае рэагаванне чэшскіх улад на гэтыя парушэнні праз дыпламатычныя каналы.

Заснавальнікамі камітэту з'яўляюцца вядомыя чэшскія палітыкі. Дэкларацыю камітэту падпісала ўжо больш за 50 чэшскіх сенатараў і парламентарыяў. Сенатары ў кароткіх уступных заявах нагадалі пра тое, што для іх, як і для шматлікіх іншых еўрапейцаў, якія даўно ўжо ўважліва сочаць за падзеямі ў Беларусі, 27 ліпеня 1991 году (Дэкларацыя аб незалежнасці Рэспублікі Беларусь) быў і застаецца нацыянальным святам Беларускай незалежнасці. Стварэнне камітэту якраз было прыўрочана да святкавання сёлеташняй 12-ай гадавіны гэтай падзеі.

Удзельнікі камітэту знаёмыя з беларускай сітуацыяй наўпрост. Даніэл Кроўпа быў назіральнікам на выбарах у Беларусі. Ян Румл, былы міністр унутраных спраў, быў незалежным назіральнікам на палітычных судовых працэсах. Марцін Мэйстржык параўнаў сённяшнія рэпрэсіі на Беларусі з падзеямі ў Чэхіі ў 1989 годзе.

Ад імя беларусаў выказаў сваю падзяку сенатарам і пажаданні плённай працы ў камітэце Аўген Сідорык, старшыня Звязу Беларусаў замежжа. Стварэнне ка-мітэту актыўна падтрымаў Вацлаў Гавел, які прыслаў тэлеграму з выказваннем падтрымкі.

Падтрымку выказаў і доктар Ян Странскі, вядомы чэшскі дысідэнт, які вывесіў з вакна свайго дома ў цэнтры Прагі бел-чырвона-белы сцяг і запрасіў усіх беларусаў адсвяткаваць Дзень Незалежнасці ва ўласным вечаровым клубе.

*А. Гайдамацкі*
*www.belabroad.org*



*На здымку: удзельнікі камітэту "За свабодную Беларусь"*

## Нью-Джэрсі, ЗША

23 жніўня ў царкве Божай Маці Жыровіцкай у Хай-Ланд Парку (штат Нью-Джэрсі) адбудзецца сустрэча прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў ЗША з новым паслом Злучаных Штатаў у Беларусі Джорджам Кролам. Мэта сустрэчы амерыканскага дыпламата з амерыканскімі беларусамі – знаёмства, абмен інфармацыяй, а таксама дыскусія па пытаннях, звязаных з Беларуссю. Як чакаецца, у верасні 2003 году Дж.Крол прыбудзе ў Беларусь.

*Аляксей Шэін, БелаПАН*

## Нью-Ёрк, ЗША

Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў ЗША ўзялі ўдзел у штогадовым "Маршы паняволеных нацый", які прайшоў 20 ліпеня ў Нью-Ёрку. Марш з'яўляецца першай падзеяй "Тыдня паняволеных нацый", у якім штогод, пачынаючы з 1959 году, удзельнічаюць прадстаўнікі дыяспар тых краін свету, дзе адсутнічае дэмакратыя, грамадзянскія свабоды і ўціскаецца права нацый на самавызначэнне. Мерапрыемства пачалося багаслужбаю за паняволеныя народы ў катэдральным саборы Святога Патрыка, а сам марш прайшоў у цэнтры Нью-Ёрка. У цэнтральным парку Нью-Ёрка адбылося афіцыйнае адкрыццё "Тыдня паняволеных нацый". Нагадаем, што 18 ліпеня ў Даласе (Тэхас), беручы ўдзел у мерапрыемствах, прымеркаваных да "Тыдня паняволеных нацый", прэзідэнт Джордж Буш заявіў, што Беларусь уваходзіць у лік шасці краін з рэжымамі, што "ўціскаюць правы чалавека". У той "чорны спіс" таксама трапілі Бірма, Зімбабвэ, Іран, Куба і Паўночная Карэя.

*"Наша Ніва". 2003. 25 ліп.*

## Брадфард, Англія

У Англіі распачала працу новая беларуская радыёпраграма. Мы назвалі нашую праграму "Сакавік", таму што гэтае слова не новае для тых, хто жыве ў Брадфардзе. Доўгі час у клубе з такою назваю збіраліся беларусы, каб за кубкам кавы ці добрага піва паразмаўляць, паспяваць ці абмеркаваць нешта. Беларускую мову зараз можна будзе чуць на хвалях мясцовага радыё BCB (Bradford/Community Broadcasting). Гэта мясцовая радыёстанцыя, якая працуе на 96.7 FM. Паколькі няшмат хто разумее нашую мову, мы асаблівую ўвагу надзяляем выбару музыкі. Музыка, якую мы перадаем на радыё, вельмі беларуская, і мы спадзяемся, надзвычай выкшталцоная. Пакуль што мы перадавалі навіны з Беларусі ды ўвогуле інфармацыю, звязаную з Беларуссю. Мы збіраемся працягваць так і надалей. Але ў нашых планах ёсць стварэнне цыклу перадачаў пра беларусаў, хто жыве ці жыў за мяжою, найперш у Брытаніі, а таксама пра тых, хто меў нейкае дачыненне да Брадфарду. Таму мы просім усіх, хто мае нейкую інфармацыю, пісаць нам на адрас:

**Mrs. Liliya Sazanavets \136**
**Park Lane**
**Bradford BD50LN UK**
**e-mail: lsazanavets@yahoo.com**

Іншы цыкл перадачаў, які мы плануем стварыць, – гэта перадачы пра беларускіх пісьменнікаў, якіх лёс закінуў далёка ад Беларусі. У гэтым выпадку не мае значэння, у якой краіне апынуўся пісьменнік. Мы просім дасылаць нам інфармацыю, а таксама творы.

Шаноўнае спадарства! Слухайце беларускае радыё кожны панядзелак 5.30-6.00 па ангельскаму часу на сайце **www.bcb.yorks.com** у real audio.

*Лілія і Зміцер Сазанавец*

## Сочы, Расія

Падчас наведвання Беларусі ў офіс МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" завітаў старшыня Беларускай Грамады "Белая Русь" г. Сочы Уладзімір Астапук. Адбылася карысная дзелавая размова з кіраўніцтвам Згуртавання, вызначаны магчымыя шляхі супрацоўніцтва. У г. Сочы пражывае 10 тысяч беларусаў. Грамада "Белая Русь" шукае сувязі з гістарычнай Радзімай, плануе займацца культурным абменам, а таксама развіваць эканамічныя ўзаемаадносіны.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Цюмень, Расія

Ад 30 ліпеня да 4 жніўня ў г. Цюмені праходзіў III Міжнародны фальклорны фестываль "Сибирские родники". Удзел узялі больш за 80 творчых калектываў Карэі, Тайваня, Казахстана, Украіны, Сібіры, Урала, Калінінградскай і Цюменскай абласцей. Беларускую культуру на фестывалі прадстаўлялі народны ансамбль беларускай песні "Лянок" (г. Цюмень), народны фальклорны ансамбль "Вячоркі" (с. Вікулава Цюменскай вобл.), вакальны ансамбль "Крынічанька" і інструментальны ансамбль "Азарычы" (г. Новасібірск). Нават дождж не стаў перашкодай для гледачоў, якія кінуліся ў скокі, калі нашыя калектывы выконвалі зухаватую "Лявоніху".

*Людміла Татарынцава*

Скончаны чарговы "конкурсны сезон", які трэці год запар ладзіць "Бацькаўшчына". Звычайна ад пачатку арганізацыі рэспубліканскага конкурсу і да вяртання пераможцаў з аздараўленчай вандроўкі праходзіць палова года. Так адбылося і ў гэтым годзе. З пачаткам вясны былі вызначаны крытэрыі і метады правядзення літаратурна-мастац-



кага конкурсу, створана экспертная камісія. Потым было абвяшчэнне конкурса пад назвай "Беларусь. Гістарычныя вандроўкі", потым атрыманне і апрацоўка конкурсных прац. Шмат часу запатрабавала абранне лепшых. Абраныя працы ўжо трэці год пераконваюць, што на Беларусі нараджаецца новая патрыятычная інтэлектуальна-мастацкая эліта – вольная ад піянерска-камсамольскай шэрасці.

Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі, Сцяпан Батура, Тадэвуш Касцюшка, курганы, замкі, храмы, рэкі, азёры, камяні, Пагоня, гербы гарадоў і шляхецкіх родаў, мілагучнасць мовы і хараство прыроды і многае-многае іншае! Гэта тэмы, якія хвалююць сёння маладыя беларускія таленты. Творы нашых дзяцей насычаны імкненнем жыць і ствараць! І крытэрыем поспеху для іх ёсць гонар і слава нашай краіны.

Пераможцы конкурсу атрымалі цудоўны падарунак – магчымасць адпачыць і ўмацаваць здароўе на курорце ў Чэхіі. Падрыхтоўка аздараўленчай вандроўкі, у якую едуць пераможцы конкурса, і распрацоўка культурных праграм адпачынку як і заўсёды патрабавалі шмат арганізацыйных намаганняў. На кожны дзень былі распрацаваны падрабязныя планы імпрэз, прысвечаныя славутым дзеячам і падзеям айчыннай гісторыі. Адказнай працай з'яўляўся падбор выхавацеляў, якія мусілі мець зносіны з вельмі таленавітымі і адукаванымі дзецьмі. І вось нарэшце – падарожжа і адпачынак.

Падчас дзіцячага падарожжа выйшаў з друку Зборнік літаратурных прац пераможцаў конкурса "Гістарычныя вандроўкі" . Гэты зборнік стане яшчэ адным падарункам маладым талентам. А восенню, у музеі М.Багдановіча будзе арганізавана выстава малюнкаў усіх удзельнікаў конкурсу.

Аздараўленчы адпачынак будучай творчай эліты Беларусі і выданне кнігі сталіся магчымымі, як і колькі год запар, дзякуючы славутай беларускай мецэнатцы з ЗША сп. Ірэне Каляздзе-Смірноў.




Управа Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра ўдзячна сп. Ірэне Каляздзе-Смірноў за адданы клопат пра духоўнае сталенне і здароўе беларускіх дзетак, а таксама ўсім удзельнікам конкурсу – за ўдзел.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*На здымках: беларускія дзеці на адпачынку ў Чэхіі; вокладка зборніка "Гістарычныя вандроўкі".*



# Пішуць удзельнікі конкурсу...

***

Добры дзень, шаноўная Алена Макоўская і ўсе супрацоўнікі "Бацькаўшчыны", я ўжо дома ў Цюмені. Хачу сказаць "Вялізны дзякуй" сп. Ірэне Каляда-Смірноў і Вашаму Згуртаванню за арганізацыю конкурса сачыненняў і за дзівосную паездку ў Чэхію. Ведаю дакладна, што толькі дзякуючы нашай амерыканскай спонсарцы і "Бацькаўшчыне" я пабачыў сярэднявечныя замкі Чэхіі, ледзяныя пячоры і іншыя дзівосныя месцы. Але самае галоўнае, мой нататнік папоўніўся адрасамі новых сяброў. Успаміны аб конкурсах, экскурсіях, паходах у горы, песнях ля вогнішча будуць саграваць мяне доўгай сібірскай зімою. А такога цікавага і жыццярадаснага кіраўніка групы, як спадар Алесь, я ніколі не сустракаў. Прызы з сімволікай Бацькаўшчыны занялі сваё месца ў маёй калекцыі. Я заўважыў, што многія мае аднагодкі не могуць актыўна адпачываць і чакаюць, калі іх пачнуць забаўляць. А я лічу, што адпачынак павінен быць не на канапе, а ў падарожжах, у знаёмчтве з чымсьці новым і цікавым. Я раю аднагодкам вывучаць гісторыю свайго краю, культуру свайго народу, сваі радаводы і... удзельнічайце ў конкурсах. Спрабуйце! І поспех Вам усміхнецца!

*Улад Татарынцаў, 14 год, г. Цюмень, Расія*

***

Паважаная спадырыня Ірэна! Вялікі Вам дзякуй за тое, што Вы далі многім таленавітым дзецям магчымасць пабачыць свет, бо не кожныя бацькі здольны адправіць свайго сына ці дачку ў такое падарожжа. Дзякуй за тое, што з Вашай дапамогай шмат хто з дзяцей знайшоў метад самавыразу. Шмат каму "Бацькаўшчына" дапамагла паверыць у свае сілы і таленты, адчуць тое, што яны здольныя да вялікіх перамог.

*Каця Прыгара, 14 год, г. Мінск*



***

Прывітанне, шаноўная сп. Ірэна. Піша Вам дзяўчынка з маленькай вёсачкі Цяхцін, якая знаходзіцца на беразе чароўнай ракі Друць. Гэта адзін з самых прыгожых і паэтычных куточкаў нашай Беларусі, асабліва для мяне, бо я тут нарадзілася, зрабіла першы крок у жыццё, у першы раз пачула з вуснаў маёй матулечкі родную мову, мову маіх продкаў. Менавіта з дапамогай гэтых мясцін я пачала пісаць вершы, паэмы, сачыненні.... Перада мной узнікалі прыгожыя вобразы, якія я пераносіла на ліст паперы.



Я заўсёды марыла пабы-ваць за мяжой. Убачыць розныя старажытныя помнікі архітэк-туры, жывапісу, вывучыць культуру і традыцыі. І вось настала гэтая радасная часіна – я ў Чэхіі. Тут вельмі ціква. Розныя вандроўкі, конкурсы, гульні. Асабліва мне спадабаліся помнікі архітэктуры: кафедральны сабор св. Пятра і Паўла, старая ратуша, замак сярэднявечча Боўзаў, а таксама неверагодныя вандроўкі ў пячоры.

Вы падаравалі мне і ўсім астатнім дзецям вялікае шчасце – пабачыць сваімі ўласнымі вачыма краіну, з якой звязаны многія сусветныя падзеі, у якой нарадзіліся многія знакамітыя людзі. Я ўсёй душой кажу Вам шчыры дзякуй, што Вы здзейснілі маю запаветную мару.

*Каця Філіпава, 15 год, Бялыніцкі р-н, Магілёўская вобл.*

*На здымках: беларускія дзеці на адпачынку ў Чэхіі.*

*Малюнак Віялеты Кандратовіч, 14 год, Мар'іна горка.*



## Яўген Вапа

Адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 10-ым угодкам Першага з'езду беларусаў свету. На імпрэзу, як пачэсных гасцей, запрасілі беларусаў з замежжа. Сярод іх быў старшыня Беларускага саюзу ў Польшчы Яўген Вапа, выступ якога выклікаў жывы водгук.

Яўген Вапа нарадзіўся ў 1965 г. у в. Доўгі Брод Гайнаўскага пав. У 1984-м годзе скончыў беларускі ліцэй у Гайнаўцы, пазней вучыўся ў Варшаўскім універсітэце на гісторыка. У 1980-я гады – лідэр незалежнага моладзевага беларускага руху на Беласточчыне, працяглы час старшыня Беларускага Аб'яднання Студэнтаў, сябра Беларускага Гістарычнага Таварыства, суставальнік і рэдактар Радыё Рацыя. З 1995-га году – старшыня Беларускага Звязу ў Польшчы.

**Яўген Вапа:** "Беларусы на Беласточчыне ёсць неад'емнаю часткай беларускага культурнага арэалу. Мы хочам быць адказнымі за тое, што робіцца на нашай тэрыторыі, там, дзе жыве найбольш беларусаў, на Беласточчыне.

Для мяне адчуваецца духоўная повязь з тым, што адбываецца на нашай вялікай Бацькаўшчыне-Беларусі. І повязь вельмі моцная. Гэта цяжка зразумець, але тыя людзі, што жывуць паза межамі Беларусі, уважлівей і часам эмацыйней рэагуюць на тое, што адбываецца ў метраполіі. Для нас – гэта павага да мовы, гісторыі, дзяржаўнасці, тое, чым можна ганарыцца перад людзьмі іншае нацыі.

Я працаваў шмат гадоў настаўнікам гісторыі ў Гайнаўцы, дзе навучаюцца беларускай мовы. Я казаў, каб вучні, моладзь гаварылі паміж сабой па-беларуску. На гэта часта адказвалі: "Пан прафесар, мы будзем гаварыць, калі ў Беларусі будуць гаварыць па-беларуску". Але мова жыве, людзі яе ведаюць. Паводле апошняга перапісу ў Польшчы, сваю прыналежнасць да беларускай нацыянальнасці дэкларавала амаль 50 тыс. жыхароў. Гэта паказвае вялікую сведамасць і адказнасць.

З 1989 году, калі адбыліся перамены, мы, беларуская інтэлігенцыя, сталі перад пытаннем "Што рабіць?" Беларуская эліта як адна з меншасцяў Польшчы, у 80-я гады стварыла сваю сістэмную антыкамуністычную структуру. Гэта дало пачатак арганізаванага беларускага руху. Летась, як вынік пэўнага працэсу, паўстаў Беларускі самаўрадавы форум: нашыя бурмістры, войты, радныя, тыя, хто балатаваўся, стварылі арганізацыю для самаадукацыі і культурнага развіцця. Беларускі Звяз выступіў з ініцыятывай пашырэння беларускіх перадачаў на "Радыё Беласток", з'яўлення праграм па-беларуску на Беластоцкай тэлевізіі. Трэба сабраць 30-50 тыс. подпісаў жыхароў Беласточчыны, якія б гэта падтрымалі.

Мусім вучыцца ладзіць грамадзянскія акцыі. На жаль, дагэтуль у Польшчы яшчэ не прынялі закону аб нацыянальных меншасцях. Зразумела, калі не будзе моцнай духовай Бацькаўшчыны, нацыянальныя меншасці і дыяспара выракаваныя на асіміляцыю. Мы адчуваем такую пагрозу. У Беларусі, на жаль, дамінуе расейская мова. Чужыя ж мова і культура вядуць у нябыт. Нам, па розныя бакі мяжы, трэба разлічваць перадусім на свае сілы і працу.

Для нашага Беларускага Звязу вельмі важнае спрыянне беларускай культуры ў Польшчы. Адсюль вынікаюць цесныя кантакты з Беларуссю арганізацый, паяднаных у Беларускім Звязе. Кожная мае свае сяброўскія дачыненні з грамадскімі арганізацыямі Беларусі: пісьменнікі з пісьменнікамі, гісторыкі з гісторыкамі, моладзь з моладдзю. Дзякуючы гэтаму ўсталявалася шмат цесных і дзейсных кантактаў.

Думаю, што мяжа, якая паўстала паміж Беларуссю і Еўразвязам, можа паслабіць кантакты, але не разарваць. Аднак нацыянальная меншасць не можа істотна дапамагчы метраполіі – наадварот, падтрымкі вымагае дыяспара. У нацыянальных меншасцяў іншая місія: яны найлепшыя паслы дзяржавы ў чужых краінах."

*"Свой Лад". 2003. № 8*

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

## Гісторыя Беларусі па-нямецку

У Германіі пад рэдакцыяй Р.Ліндцнера і Д.Бемрава з'явілася новая кніга пра Беларусь – "Дапаможнік па гісторыі Беларусі" (Handbuch der Geschicte Weissrusslands). Рыхтуючы яго, аўтары ставілі за мэту звярнуць увагу нямецкага чытача на найбольш значныя, на іх думку, перыяды і праблемы, звязаныя з гістарычным развіццём нашага краю. Даследаванне адкрываецца прадмовай, за якой змешчаны раздзел "Гістарыяграфія і геральдыка", дзе аўтары знаёмяць чытачоў з беларускімі крыніцамі і геральдыкай, што з'яўляецца яркім сведчаннем таго, што Беларусь ужо ў раннім сярэднявеччы мела як свае княствы, так і сваё магнацтва і шляхту, князёў і баяр. Наступны раздзел самы вялікі і найбольш грунтоўны – "Храналогія з X да пачатку XX ст.". Тут крок за крокам, пачынаючы ад распаду Кіеўскай Русі праз ВКЛ, Рэч Паспалітую, Паўночна-Заходні край, БССР, Крэсы Усходнія, пасляваенную БССР і сучасную Рэспубліку Беларусь прасочваецца гістарычны лёс нашага народа. У трэцім раздзеле "Аспекты сацыяльнай і культурнай гісторыі" вылучаны і асветлены такія з іх, як сацыяльная гісторыя грамадства, эканоміка, гарады, этнічныя і канфесійныя праблемы, Другая сусветная вайна, мова і літаратура. Тут разгледжаны розныя сацыяльныя слаі беларускага сярэдневяковага грамадства: баяры, князі, магнаты, прыгонныя, гараджане. Мове прысвечаны два значныя падраздзелы: "Мова ў Беларусі да канца XIX ст." і "Барацьба за родную мову ў XX ст.".

Нягледзячы на тэматычную разнастайнасць, у апошнім раздзеле нямала белых плямаў. Да іх, у першую чаргу, трэба аднесці недастатковае асвятленне канфесійнага жыцця ў Беларусі, беларускага кнігадрукавання, адсутнасць характарыстыкі такой постаці, як Ф.Скарына, беларускага тэатра, мастацтва, урэшце – фальклору.

Што тычыцца навуковага апарату, то ён зроблены даволі грунтоўна, уключае шырокі спектр дадаткаў, якія ўдала дапаўняюць матэрыялы раздзелаў і даюць магчымасць хутка арыентавацца ў даволі аб'ёмным выданні. Выкарыстаныя крыніцы шматлікія і разнастайныя.

*Літаратура і мастацтва. 2003. 8 жніў.*

## Метадычны дапаможнік з Іркуцку

Падчас свайго насычанага на сустрэчы і імпрэзы наведвання Беларусі Алег Рудакоў, кіраўнік Іркуцкага Таварыства беларускай культуры імя Чэрскага, завітаў на офіс "Бацькаўшчыны" і прэзентаваў метадычны дапаможнік "Беларускія абрадавыя святы". Дапаможнік, аўтарам якога з'яўляецца сам спадар Алег, прызначаны для сцэнарыстаў і арганізатараў беларускіх каляндарных святаў. Гэтая надзвычай карысная кніга падзелена на чатыры раздзелы. Першы прысвечаны Калядам і складаецца з дзвюх частак: "Каляды" і "Жаніцьба Цярэшкі". Другі раздзел асвятляе асаблівасці і паслядоўнасць веснавых беларускіх абрадаў. У гэтым раздзеле прапануюцца сцэнарыі вясновых святаў: Гукання вясны і Сёмухі. Трэці раздзел апісвае і тлумачыць як правесці традыцыйнае беларускае Купалле. Апошні раздзел прысвечаны беларускім Дзядам. Кніга мае прадмову і пасляслоўе. Дапаможнік аздоблены здымкамі са святаў, наладжаных самім Іркуцкім Таварыствам Беларускай культуры.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



## Народзіны Ларысы Геніюш

9 жніўня ў Зэльве адбылося святкаванне 93-й гадавіны з дня нараджэння Ларысы Геніюш. У Зэльвенскай царкве адслужылі імшу, спяваў гарадзенскі хор духоўнай музыкі "Бацькаўшчына", на магілу паэткі ўсклалі кветкі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Лёс Ларысы Геніюш

Ларыса Геніюш (дзявочае імя Ларыса Антонаўна Міклашэвіч) нарадзілася ў 1910 г. у маёнтку Жлобаўцы Гродзенскага пав. Вучылася ў польскай школе, у 1928 г. скончыла Ваўкавыскую польскую гімназію. Тады і пачала пісаць вершы. У 1937-48 гг. жыла з сям'ёй у Празе. Ларыса Геніюш была сакратаром прэзідэнта БНР В.Захаркі, займалася захаваннем і ўпарадкаваннем прэзідэнцкага архіва, апякунствам беларускіх эмігрантаў, палітычных уцекачоў і ваеннапалонных. Вершы Геніюш спрабавала пісаць яшчэ на Радзіме. Друкавацца пачала ў 1939 г. у берлінскай газеце беларускай эміграцыі "Раніца".

У 1942 г. у Празе выйшаў першы зборнік яе паэзіі "Ад родных ніў". Матывы волі і настальгіі па пакінутай Радзіме пранізваюць усе вершы.

Творчасць паэткі пад час Другой сусветнай вайны адлюстравана ў рукапісным зборніку 1945-47 гг. Яе высокадумны паэтычны малебен звернуты да ўсвятарненай Бацькаўшчыны і Бога. (Сёння зберагаецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф.Скарыны ў Лондане, дзе быў выдадзены ў 1992 г. пад назвай "Вершы".)

У 1948 г. Ларыса Геніюш і яе муж Янка былі арыштаваны, знаходзіліся ў турмах Чэхаславакіі, Львова, з канца 1948 г. у турме Мінску. У 1949 г. Ларыса і Янка Геніюшы былі асуджаны на 25 гадоў кожны. Пакаранне Л.Геніюш адбывала ў лагерах Комі АССР і Мардоўскай АССР, дзе станавіла сабой прыклад фенаменальнай духоўнай трывушчасці, яднала вакол сябе беларусаў. Яе шчырае і мужнае паэтычнае слова дапамагала суайчыннікам выжыць у нялюдскіх умовах. Сярод вязняў яе клікалі Маці, вершы яе называлі "глюкозай", іх завучвалі на памяць, як малітвы.

У 1956 г. Геніюшы былі вызвалены і вярнуліся на Беларусь. 27 гадоў зэльвенскага жыцця Л.Геніюш праходзілі пад наглядам КДБ. Улады пазбавілі паэтку спакойнай старасці, не дазваляючы паехаць да сына Юркі, які жыў побач, у Беластоку.

Духоўнай падтрымкі ад паэткі чакалі суайчыннікі ў Мэльбурне і Рыме, Лондане і Нью-Ёрку, Маскве і Празе, Вільні і Мінску, Вроцлаве і Львове... Геніюш прынцыпова не прымала савецкае грамадзянства, не ўступала ў Саюз пісьменнікаў. Ад уладнага свавольства Л.Геніюш неаднаразова бараніў М.Танк.

У 1967 г. выйшаў першы на Радзіме зборнік "Невадам з Нёмана", які ўяўляў з сябе выбранае за тры дзесяцігоддзі – з 1937 па 1966. Паэтычнай творчасці Л.Геніюш характэрны цнатлівы лірызм, глыбокія народнасць і гуманізм, філасофскае асэнсаванне жыцця, моцныя хрысціянскія і нацыянальна-патрыятычныя матывы.

Пры садзейнічанні М.Танка, У.Караткевіча, Д.Бічэль-Загнетавай, надрукаваны 2 зборнікі паэзіі і 2 кніжкі вершаў для дзяцей. Сапраўднай падзеяй у беларускай мемуарыстыцы стала пасмяротная публікацыя кнігі ўспамінаў Л.Геніюш "Споведзь". Самы поўны збор твораў Л.Геніюш быў выдадзены у 2000 г. у серыі "Беларускі кнігазбор".

Памерла Л.Геніюш у 1983 г.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Вярхоўны суд адмовіўся рэабілітаваць Л.Геніюш

Беларускі Хельсінскі камітэт звярнуўся 9 ліпеня гэтага года да кіраўніка дзяржавы з просьбаю рэабілітаваць паэтку. У 1949 г. Ларыса Геніюш была асуджаная паводле абвінавачання ў падрыўной дзейнасці супраць СССР. У лісце БХК да Лукашэнкі адзначаны шэраг юрыдычных матываў: Геніюш была асуджаная, не з'яўляючыся грамадзянкаю БССР, з матэрыялаў яе справы вынікае, што ёй інкрымінавалася сяброўства ў арганізацыях "Беларуская Рада" і "Беларуская народная самапомач", якія не вялі антысавецкай ці прафашыцкай дзейнасці. Апроч іншага, артыкулы крымінальнага кодэксу, паводле якіх Ларыса Геніюш была асуджаная, былі скасаваныя ў 1960 годзе, што паводле заканадаўства мусіць цягнуць за сабою скасаванне прысуду і рэабілітацыю. У 1999 годзе БХК ужо звяртаўся ў Генпракуратуру Беларусі з просьбаю апратэставаць прысуд Ларысе Геніюш і яе мужу Яну. Справа была накіраваная ў Вярхоўны суд, які пастанавіў, што Ларыса Геніюш увогуле не падлягае рэабілітацыі. Цяперашні зварот Хельсінскага камітэту Аляксандр Лукашэнка пакінуў без адказу, пераадрасаваўшы яго Вярхоўнаму суду. А Вярхоўны суд пацвердзіў сваю ранейшую пазіцыю, адказаўшы, што Ларыса Геніюш была абгрунтавана прызнаная не падлягаючай рэабілітацыі.

*"Биржа информации". 2003. 31 ліп.*

## Увага! Конкурс

**Віленскі педагагічны універсітэт абвяшчае набор** абітурыентаў на 1 курс факультэта славістыкі па спецыяльнасці беларуская філалогія. Навучанне завочнае платнае. Прыём дакументаў – да 15.09.2003 г. Дакументы можна выслаць па адрас:

Baltarusis filologijos katedra
(кафедра беларускай філалогіі)
Vilniaus pedagoginis universitetas
Students g. 39-527
2004 Vilnius
LIETUVA

Падрабязная інфармацыя:
Tel. (+370) 615-275-77, (+370) 698-067-10; тэл. у Баранавічах: (8-0163) 47-05-03;
e-mail: belfil@vpu.lt; http://www.vpu.lt/belfil

## З стэнаграмы прэс-канферэнцыі А.Лукашэнкі для расійскіх СМІ

Змешчана на афіцыйным прэзідэнцкім сайце. А.Лукашэнка: "Если я скажу, что я очень наблюдаю за диаспорой в России, поддерживаю их, это будет неправдой. Неправдой в силу особых взаимоотношений белорусов и россиян. Я не вижу разницы между россиянами и той диаспорой белорусов, которая там проживает. Куда не приезжаю, в том числе будучи в Новосибирске, я встречаюсь с представителями диаспоры. Если они у меня попросят, я им помогаю. Стараюсь помочь, если им нужна какая-то конкретная помощь, которую я должен оказать. Не какая там особая из-за того, что они – диаспора Беларуси, а просто попали в трудное положение. Мы, конечно, поддержим, но так же, как и россиян. У нас в Беларуси даже и не принято такое понятие, как диаспора. Может быть "диаспора армян, грузин" нормально звучит в России, а диаспора белорусов не очень."

*2003. 2 жніў. "www.president.gov.by"*

Бюлетэнь інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў публікацый могуць не супадаць з думкай рэдакцыі, друкавацца дзеля палемікі. Адказная за выпуск Алена Макоўская.
Наклад 200 асоб.

Адрас рэдакцыі:
220030, Рэспубліка Беларусь
г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15
zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org
тэл. 289-31-94